ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 15 (2594)
ПЯТНІЦА
14
красавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

**12 КРАСАВІКА КРАІНА АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ КАСМАНАЎТЫКІ**

## ЧАКАЙЦЕ НАС, ЗОРЫ!..

Так называецца вялікая выстаўка твораў лётчыка-касманаўта, Героя Савецкага Саюза Аляксея Ляонава і маскоўскага мастака Андрэя Сакалова, якую пабачылі ўжо ў многіх гарадах нашай краіны.

Цяпер экспазіцыя гэтай выстаўкі разгорнута ў Палацы культуры Мінскага камвольнага камбіната. Яе складаюць сто пяць арыгінальных работ, прысвечаных тэме пакарэння космасу. На адкрыцці выстаўкі з гледачамі сустрэўся мастак А. Сакалоў.

Прапануем увазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва» творы з выстаўкі: «Зацьменне Сонца на Месяцы» А. Ляонава і А. Сакалова, «Усюдыход ідзе цераз лаву», «Планета ў туманнасці 1с 443», «Міма залатой зоркі Цэфея» А. Ляонава.









# НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

Аляксандр УЛЬЯНОВІЧ,
сакратар Гродзенскага абкома КПБ



ЛІТАРАТУРА і мастацтва з'яўляюцца адной з важнейшых форм духоўнага жыцця народа, яго грамадскай свядомасці. Вось чаму клопаты аб іх развіцці і накіраванасці былі і застаюцца часткай агульнай справы партыі. Як вядома, у свеце, падзеленым на два лагеры, інтарэсы і мэты якіх супрацьлеглыя, няма і не можа быць нейкай надкласавай ідэалогіі. Нават калі мастак і не ўсведамляе гэтага, выражаючы свае індывідуальныя, творчыя задачы, ён выступае як мастацкі выразнік патрэб пэўнага класа. Яго творчасць па самой сваёй прыродзе звязана з пэўнымі палітычнымі тэндэнцыямі. У сувязі з гэтым прыгадваюцца мудрыя словы У. І. Леніна, калі ён сцвярджаў, што жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства нельга, што «свабода творчасці», «беспартыйнасць» мастака ва ўмовах класавага панавання буржуазіі ёсць на справе толькі крывадушна маскіруемая залежнасць ад грашовага мяшка, ад вузкакарыслівых класавых інтарэсаў буржуазіі.

**Па-сапраўднаму прагрэсіўнае, пазначанае высокім гуманізмам мастацтва можа плённа развівацца толькі на аснове рэвалюцыйнага, марксісцкага светапогляду. Менавіта светапогляд марксізма-ленінізма, сувязь з жывым вопытам працоўнага народа дазваляе літаратуры і мастацтву сацыялістычнага рэалізму адлюстроўваць рэчаіснасць у яе рэвалюцыйным развіцці, гэта значыць бачыць жывую праўду жыцця, яе вядучыя тэндэнцыі.**

**Мы ўсе ведаем, якая вялікая ўвага развіццю літаратуры і мастацтва надаецца ў матэрыялах XXIV з'езда КПСС. Праграмныя дакументы партыі ўяўляюць сабой значны ўклад у марксісцка-ленінскую эстэтыку, таму што развіваюць яе асноўныя палажэнні ў дастасаванні да жыцця нашай краіны ў перыяд будаўніцтва камунізма. Партыя заклікае дзеячоў літаратуры і мастацтва да смелай, наватарскай распрацоўкі сучасных тэм, да актыўнага ўдзелу ў фарміраванні духоўнага аблічча чалавека камуністычнага грамадства.**

Прынёманскі край здаўна славіўся сваімі літаратурнымі традыцыямі, літаратурнымі і мастацкімі талентамі. Імёны такіх шырока вядомых майстроў слова, як Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, звязаны з Гродзеншчынай.

У больш позні час прынёманская зямля натхняла і давала багаты матэрыял для творчасці Міхася Васілька, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля і іншых. У нашы дні на Гродзеншчыне таксама жывуць і плённа працуюць здольныя літаратары: Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава, больш маладыя аўтары: Юрка Голуб, Мар'ян Дукса, першы зборнік выдала нядаўна супрацоўніца шчучынскай раённай газеты «Савецкая вёска» Марыя Шаўчонак, усё больш упэўнена гучаць галасы Самсона Пярловіча, Пятра Андрэева і іншых. Невыпадкова першае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі ўзнікла ў Гродне.

**Вырашаючы складаныя праблемы развіцця эканомікі, адказныя задачы сацыяльнага плана, абласная партыйная арганізацыя Гродзеншчыны ніколі не выпускае з-пад увагі пытанні развіцця літаратуры і мастацтва. У наш час духоўныя фактары, як ніколі раней, становяцца ўсё больш дзейсным паскаральнікам прагрэсу ва ўсіх сферах жыцця. А літаратура і мастацтва — менавіта тая духоўная сіла, што актыўна ўздзейнічае на масы, дапамагае партыі выхоўваць у людзей камуністычную свядомасць і савецкі патрыятызм. Менавіта на творчую інтэлігенцыю і моладзь робіць стаўку буржуазная прапаганда. Таму мы не можам абыякава адносіцца да стану ў творчых аб'яднаннях, творчым асяроддзі.**

Мы пастаянна цікавімся творчасцю нашых пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, ведаем абстаноўку ў творчых саюзах, клапоцімся аб іх колькасным і якасным росце. Радуемся поспехам гродзенскіх аўтараў, засмучаемся ад іх творчых няўдач і памылак.

Надаючы асаблівую ўвагу ролі творчай інтэлігенцыі ў камуністычным выхаванні працоўных, у фарміраванні правільнага светапогляду і эстэтычнага густу народа, мы ўсяляк спрыяем пастаянным сувязям пісьменнікаў, мастакоў з працоўнымі — чытачамі і гледачамі. Лічым, што такія зносіны прыносяць дваякую карысць: мастак ці пісьменнік атрымлівае магчымасць пабыць сярод тых, хто стварае матэрыяльныя каштоўнасці, сярод тых, для каго ён працуе, а, можа здарыцца, што і сярод герояў сваіх будучых твораў і можа выслухаць такія заўвагі, якія варты самай лепшай рэцэнзіі прафесійнага крытыка. А чытач, у сваю чаргу, атрымлівае магчымасць азнаёміцца з творчымі планамі сваіх аўтараў, неяк заглянуць у таямніцы творчай лабараторыі. Трэба адзначыць, што цікаўнасць да такіх сустрэч у працоўных вельмі вялікая.

Прыгадваюцца дні літаратуры ў вобласці, якія адбыліся напярэдадні XXIV з'езда КПСС. Тады ў калгасах, саўгасах, на прадпрыемствах, у школах і клубах пабывалі гродзенскія пісьменнікі разам са сваімі мінскімі калегамі. Партыйныя органы на месцах паклапаціліся аб арганізацыі сустрэч пісьменнікаў з як мага большай колькасцю чытачоў. Залы не пуставалі, было многа пытанняў, гутарак «па душы», пісьменнікі завязвалі асабістыя кантакты з працоўнымі. Дарэчы, іншы раз такія сустрэчы даюць вынікі не дзесьці ў далёкай перспектыве, а адразу ж.

Паехаў неяк наш пісьменнік Васіль Быкаў у вёску, потым надрукаваў нарыс у абласной газеце «Гродненская правда» пра калгасніка калгаса імя Маякоўскага Навагрудскага раёна Івана Паўлавіча Грыня. Ён зрабіў карысную справу, адкрыўшы для аднавяскоўцаў (і не толькі для іх) цудоўнага чалавека. На героя нарыса людзі потым і глядзець пачалі інакш, аддалі яму належную даніну павагі — абралі дэлегатам Усесаюзнага з'езда калгаснікаў.

Можна толькі шкадаваць, што такія адкрыцці нашы пісьменнікі робяць не часта. А жыццё паказвае, што самымі жыццяздольнымі бываюць толькі тыя мастацкія творы, што ідуць ад жыцця. Прыхільнікі адрыву ад рэчаіснасці могуць спарадзіць толькі анемічныя творы, якія не могуць стаць ні карыснымі, ні папулярнымі.

Мы ўсяляк заахвочваем пастаянныя сувязі прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з працоўнымі горада і вёскі. Калектыў абласнога драматычнага тэатра ўжо некалькі гадоў падтрымлівае трывалыя сувязі з рабочымі Гродзенскай бавоўнапрадзільнай фабрыкі. Акцёры і рэжысёры часта выступаюць перад тэкстыльшчыкамі з творчымі справаздачамі, канцэртамі, шэфствуюць над мастацкай самадзейнасцю прадпрыемства. Прадстаўнікі тэкстыльшчыкаў абмяркоўваюць новыя пастаноўкі тэатра, удзельнічаюць у праглядзе новых спектакляў, з іх парадамі і заўвагамі ў тэатры лічацца.

Некалькі месяцаў таму назад калектыў тэатра заключыў дагавор творчай садружнасці з хлебаробамі калгаса «Авангард» Гродзенскага раёна, устаноўлены «Дні тэатра» ў гарадах і раённых цэнтрах вобласці.

У нашай вобласці працуе параўнаўча вялікі атрад мастакоў. Толькі ў майстэрні абласнога цэнтра налічваецца 8 членаў Саюза мастакоў БССР, а ўсяго ў вобласці 15 членаў гэтага творчага саюза. Графікі, жывапісцы, скульптары рэгулярна прымаюць удзел у абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках. Работы І. Пушкова, В. Савіцкага, А. Захарава, М. Плужніка, Д. Парахні экспануюцца ў музеях рэспублікі. Для прапаганды творчасці мастакоў вялікае значэнне маюць традыцыйныя штогоднія «Тыдні выяўленчага мастацтва». У гэты час арганізуюцца выстаўкі, сустрэчы з працоўнымі горада і сяла. Цяпер нашы мастакі рыхтуюцца да сваёй юбілейнай выстаўкі, прысвечанай 25-годдзю стварэння ў Гродне творчай арганізацыі і да выстаўкі «Беларусь сацыялістычная», якая будзе праведзена ў Маскве.

**Жыццё, як прыліўная хваля, захлёствае мастака новымі ўражаннямі, новымі падзеямі. Для адлюстравання ўсяго гэтага зусім заканамерна імкненне мастака да наватарства, да пошуку свайго творчага аблічча. І тут, здараецца, падпільноўвае мастака падводны рыф фармалізму, беспрадметнай мадэрнізацыі. Мы лічым сваім абавязкам у такім выпадку ўказаць чалавеку на яго памылкі, пераканаць яго, што толькі той твор можна лічыць сапраўды мастацкім, які прыносіць карысць народу, які так ці інакш выхоўвае пачуцці людзей, удзельнічае ў фарміраванні іх эстэтычных густаў, камуністычнай свядомасці.**

Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР, якое ўзначальвае вядомы празаік Васіль Быкаў, у апошні час значна ажывіла сваю работу. Партыйная арганізацыя Гродзеншчыны, усе працоўныя вобласці рыхтуюцца цяпер да знамянальнага юбілею нашай Айчыны — 50-годдзя ўтварэння СССР. Аддзяленне Саюза пашырыла сваю дзейнасць у напрамку наладжвання сувязей з пісьменнікамі іншых рэспублік. Як і трэба было чакаць, найцяснейшыя кантакты нашых пісьменнікаў наладжваюцца з бліжэйшымі суседзямі — літоўцамі. Зараз у планах нашага аддзялення Саюза пісьменнікаў — абмен дэлегацыямі з Каўнаскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Літвы. Дарэчы, нашы паэты і празаікі ўжо ездзілі ў братнюю Літву, выступалі перад працоўнымі прадпрыемстваў Вільнюса і іншых гарадоў рэспублікі. А літоўскія пісьменнікі Поцюс Жукаўскас, паэтэса Скучайтэ былі гасцямі нашай вобласці. Яны сустракаліся з партыйнымі работнікамі, пісьменнікамі, выступалі ў калектывах працоўных. Пераклады твораў літоўскіх сяброў друкаваліся ў абласной газеце «Гродненская правда». Такія сустрэчы ўзаемна ўзбагачаюць літаратараў, дазваляюць абменьвацца ўражаннямі, абменьвацца, калі гэта патрэбна, вопытам работы. Непасрэдныя кантакты з чытачамі спрыяюць развіццю цікавасці да літаратуры і культуры братніх рэспублік. Мы, партыйныя работнікі, лічым, што такія сувязі літаратараў спрыяюць інтэрнацыянальнаму выхаванню працоўных.

У гэтым сэнсе ў нас ёсць нямала прыкладаў пленнага і карыснага супрацоўніцтва пісьменнікаў розных рэспублік Саюза ССР. У 1971 годзе, напрыклад, нашы паэты і празаікі разам з пісьменнікамі братняй Украіны ўдзельнічалі ў правядзенні Тыдня культурнага шэфства над пагранічнымі войскамі. У воінаў пагранічных застаў і іншых падраздзяленняў засталіся ў памяці сумесныя выступленні ўкраінскіх і беларускіх майстроў слова. У мінулыя гады Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР прымала самы актыўны ўдзел у цэлым шэрагу дэкад і тыдняў братніх літаратур. Тады разам з партыйнымі работнікамі, прадстаўнікамі ўстаноў культуры нашы пісьменнікі суправаджалі літаратараў Малдавіі, Расійскай Федэрацыі, Таджыкістана на прадпрыемствы, ва ўстановы, калгасы і саўгасы вобласці. Зусім нядаўна, калі ў рэспубліцы праводзіўся Тыдзень дзіцячай кнігі, нашы пісьменнікі цёпла сустракалі на Гродзенскай зямлі сваіх сяброў па пяры з рэспублік Закаўказзя і Сярэдняй Азіі.

Сувязі мясцовых літаратараў, мастакоў, усёй творчай інтэлігенцыі са сваімі калегамі з іншых рэспублік асабліва ажывіліся цяпер, напярэдадні 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Шматгранная дзейнасць работнікаў літаратуры і мастацтва, іх творчасць заўсёды карысталася і карыстаецца павагай працоўных. І кожная памылка мастака, літаратара ўрэшце перарастае рамкі звычайнай чалавечай памылкі, бо чытаюць кнігу ці глядзяць спектакль, карціну тысячы людзей,

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР з глыбокім жалем паведамляе аб смерці пісьменніка Канстанціна Маркавіча Цітова і выказвае шчырае спачуванне сям'і і ўсім блізкім нябожчыка.**

З пошты ЛіМа

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА Яўгена ЛІЗЮКОВА

З цікавасцю прачытаў у вашай газеце нарыс Д. Радзінскага і М. Царкова «Па слядах герояў», у якім расказваецца пра братоў Лізюковых.

Яўгена Ільіча Лізюкова, старэйшага брата Герояў Савецкага Саюза Аляксандра і Пятра Лізюковых, я часта бачыў у 1943 годзе ў штабах брыгад імя Суворава і імя Фрунзе на Случчыне. Гэта быў сапраўдны партызанскі камандзір, якім мы, радавыя партызаны, захапляліся і ганарыліся. Вось некалькі эпізодаў з баявога жыцця Яўгена Ільіча Лізюкова.

У канцы 1942 года група ў 25 партызан зрабіла засаду на дарозе Бабоўня — Асіповічы ў раёне вёскі Жылін Брод. Паказаліся немцы. Партызаны прапусцілі разведчыка - матацыкліста. Нямецкія грузавікі з пяхотай партызаны падпусцілі на кідок гранаты і адкрылі агонь.

Потым партызаны кінуліся ў атаку. У першых радах атакуючых ішоў старшы лейтэнант Яўген Ільіч Лізюкоў. У тым баі партызаны знішчылі 69 акупантаў і захапілі ўсю іх зброю, у тым ліку некалькі мінамётаў і кулямётаў.

Недзе 23 ці 30 красавіка 1943 года са Старых Дарог акупанты кінулі супраць нас полк эсэсаўцаў, які неўзабаве меўся накіравацца ў раён Курскай дугі.

Расказвалі, што камендант Старых Дарог, пасылаючы полк у раён вёсак Шчыткавічы—Асавец, гаварыў эсэсаўскаму палкоўніку: «Там дзейнічае некалькі банд. Яны разбягуцца, калі ўбачаць перад сабой адборныя часці фюрэра».

Перадавы атрад фашыстаў падышоў да вёскі Асавец. У Асаўцы стаяла застава з роты Лізюкова. Лізюкоўцы адкрылі агонь, але пад націскам большых сіл ворага пачалі адступаць. Раптам аднекуль з'явіўся Лізюкоў на сваёй кабыліцы Машцы. (Услед за ім далёка ззаду рухалася пешшу рота). Лізюкоў сам асабіста павёў у контратаку заставу і выбіў гітлераўцаў з Асаўца. Падышла рота. Лізюкоў са сваю ротай адбіў за некалькі гадзін каля дзесяці атак.

Гітлераўцы страцілі ў баі пад Асаўцом каля сотні забітымі і паране-

**Як мы паведамлялі ўжо, у Мінску адбылася рэспубліканская нарада работнікаў культуры. Удзельнікі нарады абмеркавалі пытанні, звязаныя з работай устаноў культуры рэспублікі па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС і задачамі іх у сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР. Друкуем скарочаную стэнаграму даклада міністра культуры БССР Ю. Міхневіча і выступленняў удзельнікаў нарады.**

# КУЛЬТУРА НАРОДА— НІВА ДЛЯ ЭНТУЗІЯСТАЎ

— Удзел культурна-творчых арганізацый рэспублікі ў камуністычным выхаванні працоўных, — сказаў дакладчык, — планы культурнага будаўніцтва ў бягучай пяцігодцы вызначаны ў мерапрыемствах па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Гэтыя мерапрыемствы леглі ў аснову дзейнасці нашых тэатраў і канцэртных арганізацый, навучальных і культурна-асветных устаноў. З натхненнем сустрэлі работнікі культуры рэспублікі Пастанову ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Ідучы да гэтага свята, беларускі атрад творчай інтэлігенцыі, работнікаў культуры ўсімі сродкамі прафесійнага і самадзейнага мастацтва, разнастайнымі формамі культурна-асветнай работы імкнецца ўмацоўваць маральна-палітычнае адзінства грамадства, згуртаванасць партыі і народа, дружбу і супрацоўніцтва народаў СССР.

Летась працоўныя рэспублікі атрымалі новыя цікавыя па форме і значныя па змесце спектаклі, сімфанічныя, канцэртна-лекцыйныя і эстрадныя праграмы, якія трывала ўвайшлі ў рэпертуар. Некаторыя з іх адзначаны ростам пастановачнай і выканаўчай культуры, сведчаць аб плённым творчым пошуку. Палепшыліся агульныя паказчыкі работы тэатраў і канцэртных арганізацый па мастацкай абслузе працаўнікоў сяла. У сельскай мясцовасці паказана за год каля 5 тысяч спектакляў і канцэртаў (на 1 200 больш, чым у 1970 годзе). У раённых цэнтрах, калгасах і саўгасах актыўна выступалі многія тэатры і канцэртныя калектывы рэспублікі. Пашырылася геаграфія выездаў. Гомельскі абласны драматычны тэатр, напрыклад, у ліпені-жніўні пабываў у 19 раёнах вобласці, паказаў сельскім працаўнікам 146 спектакляў, якія прагледзела каля 44 тысяч чалавек, арганізаваў 83 шэфскія сустрэчы з працоўнымі. За высокія паказчыкі ў культурна-шэфскай рабоце на сяле калектыву Гомельскага тэатра прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг Беларускага савета прафсаюзаў і Міністэрства культуры БССР.

Дасягнуты і іншыя станоўчыя вынікі. Але гаворка ідзе аб агульных паказчыках, аб выніках работы ў цэлым. Калі ж разгледзець іх больш канкрэтна, то можна ўбачыць, што ў нас яшчэ не ўсё робіцца.

Так, за мінулы год мы далі на сяле значна больш спектакляў і канцэртаў, чым у 1970 годзе. Але ў той жа час тэатр імя Янкі Купалы, рускі тэатр, Гомельская абласная філармонія не выканалі сваіх планавых заданняў па абслузе сельскага гледача. Мы адзначаем агульны звышпланавы плюс па колькасці гледачоў, а ў той жа час зацверджаны на 1971 год план запоўненасці залаў недавыкананы тэатрам оперы і балета амаль на 48 тысяч чалавек, рускім тэатрам імя Горкага — на 26 тысяч, тэатрам музычнай камедыі — амаль на 60 тысяч.

Мы не можам цярпіма ставіцца да таго факта, працягваў дакладчык, што некаторыя нашы тэатры і канцэртныя арганізацыі (тэатр оперы і балета, тэатр юнага гледача, тэатры імя Якуба Коласа і імя Горкага) закончылі 1971 год са значнымі звышпланавымі стратамі. Усе мы ведаем, што для ўстаноў мастацтва самым галоўным з'яўляецца ідэйна-мастацкі, творчы ўзровень. Але глыбока памыляецца той, хто схільны бачыць у фінансавых паказчыках нашай работы нешта накшталт адасобленай грашовай катэгорыі, якая не мае прамых адносін да творчасці. Як правіла, фінансы на дзіва чула адлюстроўваюць якасць рэпертуару, узровень рэжысуры, склад і працаздольнасць трупы, арганізацыйна-творчы ўзровень рэпетыцый, прафесійны ўзровень кіруючых адміністрацыйна-тэхнічных работнікаў і г. д.

Неабходна ўсведамляць і памятаць, што ўсе без выключэння бакі дзейнасці тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў складаюць адзіны вытворча-творчы працэс, і ўвесь гэты працэс будуецца па зацверджанаму для нас плану — дзяржаўнаму плану нашай работы, выконваць які і адказваць за які кожны абавязаны па-дзяржаўнаму. Гэта з усёй паўнатой падкрэсліваецца ў пастанове ЦК Кампартыі Беларусі аб выніках гастроляў у Маскве тэатра оперы і балета.

— Нельга не сказаць, — працягваў Ю. Міхневіч, — што ў нас да гэтага часу даволі рэдкай падзеяй з'яўляюцца спектаклі са значнай сучаснай праблематыкай. А партыя, час, народ настойліва патрабуюць гэтага. Актыўна прыцягваючы на нашу сцэну новыя сучасныя творы драматургаў Расіі і іншых саюзных рэспублік, мы падтрымліваем усё цікавае, перспектыўнае. Работу ў гэтым кірунку вядзём сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, і гэты кантакт дае станоўчыя вынікі. Але калі супаставіць стан нашай сучаснай драматургіі з тэматычным і эмацыянальна-мастацкім узроўнем сучаснай беларускай прозы або паэзіі, то параўнанне акажацца не на карысць драматургіі. Яе недахопы відаць і ў прафесійна-мастацкіх якасцях, і ў ступені значнасці праблем, якія яна асвойвае. Стварэнне буйных сцэнічных палотнаў аб нашай рэчаіснасці, аб сучасніку, рабочым чалавеку чакае свайго вырашэння.

— Гэтак жа востра стаяць прыгаданыя пытанні і ў галіне выяўленчага мастацтва рэспублікі, — зазначыў дакладчык.—Нам прыемна, што работы беларускіх мастакоў атрымалі станоўчую ацэнку на прысвечанай 50-годдзю СССР выстаўцы ў Маскве. Але нават тое лепшае, што дэманструем мы на выстаўках, не можа цалкам задаволіць. Распрацаваны доўгатэрміновыя планы выставачнай дзейнасці ў рэспубліцы і ў Саюзе. Аднак жывапісцы, графікі, скульптары часам недастаткова шырока разумеюць і асвойваюць тэматычныя кірункі выставак, сацыяльную сутнасць і глыбіню ажыццяўляемых дзяржаўных заказаў. Справа не толькі ў заказе: насустрач яму павінна ісці ініцыятыва работнікаў мастацтва і творчых арганізацый. Калі многія нашы мастакі атрымалі заслужаныя пахвалы за распрацоўку ваенна-патрыятычнай тэмы, то сучасная працоўная героіка народа не стала яшчэ галоўным накірункам выяўленчага мастацтва. Мы маем права чакаць у гэтай справе большай актыўнасці, больш канкрэтнай дапамогі ад Саюза мастакоў БССР і яго мастацкага фонду.

Дакладчык падрабязна спыніўся на музычным жыцці рэспублікі. Ёсць дасягненні ў галіне сімфанічнай, камернай, эстраднай музыкі. Аб гэтым сведчаць спектаклі музычных тэатраў, вечары і канцэрты рознага жанру. Добрае ўяўленне аб творчасці кампазітараў і музычных калектываў рэспублікі даюць выступленні Дзяржаўнай харавой капэлы, Дзяржаўнага народнага хору, Дзяржаўнага народнага аркестра, Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, аўтарскія канцэрты кампазітараў Яўгена Глебава, Генрыха Вагнера, Дзмітрыя Смольскага і іншых. Асабліва прыкметна праяўляецца творчая актыўнасць кампазітараў рэспублікі ў песенным жанры. Любяць у народзе песні кампазітараў Багатырова, Алоўнікава, Семянякі, Кузняцова, Смольскага і іншых. У апошні час шырокую папулярнасць заваявалі песні яшчэ маладога, але ўжо вядомага ў рэспубліцы і краіне кампазітара Ігара Лучанка.

Далейшага паляпшэння патрабуе прапаганда музычнага мастацтва. Я маю на ўвазе суадносіны так званай «сур'ёзнай» і «лёгкай» музыкі, пытанні ўзбагачэння эстраднай музыкі фальклорам, узмацненне ўвагі да святаў песні, да народных традыцый харавога спявання. Калі на канцэртах нашых філармоній эстрадная музыка складае прыкладна 40 працэнтаў, дык у канцэртах, якія праводзяцца мясцовымі сіламі, яна часам займае пераважную частку праграмы. А дадайце да гэтага танцы, музыку ў парках, на катку, ды яшчэ і саматужныя «біг-біты» — атрымаецца, што на долю сімфанічнай, камернай музыкі застанецца, бадай, зусім мала месца, а гэта вядзе ў канчатковым выніку да выхавання аднабаковых густаў і эстэтычных уяўленняў.

Вялікая роля ў фарміраванні духоўнага свету чалавека належыць культурна-асветным установам. Клубы і дамы культуры, бібліятэкі, музеі, паркі культуры і адпачынку з'яўляюцца месцамі актыўнага далучэння насельніцтва да культуры. Асноўным зместам дзейнасці культурна-асветных устаноў у сучасны момант з'яўляецца прапаганда матэрыялаў XXIV з'езда КПСС і падрыхтоўка да 50-годдзя ўтварэння СССР. Аналіз работы большасці культурна-асветных устаноў паказвае плённасць пошукаў у гэтым напрамку. У разнастайных формах культурна-асветнай работы — ад маляўніча аформленага стэнда да масавага народнага свята — прыкметна імкненне ўвязаць прапаганду ідэй партыйнага з'езда з практычнымі справамі вытворчых калектываў, вызначыць месца кожнага працаўніка ў ажыццяўленні планаў пяцігодкі.

— Сёння, напярэдадні 50-годдзя СССР, — працягваў дакладчык, — нам трэба прааналізаваць праблемы патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання насельніцтва — ці дастаткова выкарыстоўваем мы накоплены вопыт, ці актыўна шукаем шляхі яго ўзбагачэння, абапіраючыся на тыя багатыя матэрыялы і факты, якія даюць нам гісторыя і паўсядзённая рэчаіснасць.

Да раённых і гарадскіх дамоў культуры ў мінулым годзе была асаблівая ўвага з боку раённых і гарадскіх аддзелаў, абласных упраўленняў культуры і міністэрства — праходзіў рэспубліканскі агляд іх работы. Вынікі агляду сведчаць, што як масавасць, так і якасны ўзровень работы за апошні час выраслі. Пры ўсіх раённых і гарадскіх дамах культуры працуюць народныя універсітэты па розных галінах ведаў, узмацнелі гурткі мастацкай самадзейнасці, створана 217 новых калектываў, сіламі самадзейнасці дадзена амаль на 500 спектакляў і канцэртаў больш, чым у папярэднім годзе. Многія раённыя дамы культуры за апошні час матэрыяльна ўзмацнелі, рабілі больш разнастайнымі формы сваёй работы, палепшылі дапамогу сельскім клубам. Значныя змены адбыліся, напрыклад, у Бярозаўскім раённым доме культуры. Тут створана і плённа працуе 11 гурткоў. У мінулым годзе аркестру духавых інструментаў прысвоена званне «народны», у харавым калектыве — 50 актыўных удзельнікаў, ёсць аркестр народных інструментаў, вакальна-інструментальны ансамбль, драматычны гурток, агітбрыгада, танцавальны калектыў з дзіцячай студыяй. Пры доме культуры працуюць курсы машынапісу, кройкі і шытва, мастацка-афармленчая майстэрня. Сапраўднай лабараторыяй клубнай работы стаў метадычны кабінет, з дзейнасцю якога знаёмы многія з прысутных тут таварышаў. Заслугоўвае адабрэння работа такіх дамоў культуры, як Асіповіцкі, Талачынскі, Шчучынскі, Пінскі гарадскі, Мядзельскі, Рагачоўскі, Гомельскі, Чашніцкі, Кобрынскі, Баранавіцкі гарадскі, Стаўбцоўскі і іншыя.

Аднак, далёка не ўсе рэзервы паляпшэння арганізацыйна-творчай работы, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы дамоў культуры былі выкарыстаны. Хіба можна мірыцца з тым, што ў радзе дамоў культуры няма гурткоў мастацкай самадзейнасці вядучых жанраў, або з тым, што выезды ў сельскія клубы ў асобных раёнах носяць эпізадычны характар, не аналізуюцца мерапрыемствы, якія праводзяцца ў сельскіх клубах. А ў канчатковым выніку аб узроўні дзейнасці раённага дома культуры — галоўнага клуба раёна — трэба меркаваць па якасці работы сельскіх клубаў і дамоў культуры.

Якой дапамогі сялу можна чакаць, напрыклад, ад Чавускага раённага дома культуры, у якім няма пастаянна дзеючых гурткоў мастацкай самадзейнасці, масавая работа праводзіцца ад выпадку да выпадку, няма нагляднай агітацыі. Або ўзяць Ляхавіцкі раённы дом культуры Брэсцкай вобласці. Тут нядрэнныя ўмовы, але ўся работа зводзіцца да правядзення танцаў.

Гарадскія дамы культуры яшчэ не ўсюды добра дапамагаюць вёсцы. Часцей за ўсё гэтая дапамога абмяжоўваецца арганізацыяй канцэртаў, ды і то там, куды лягчэй праехаць. А між тым, сельскія клубы — адзін з найбольш складаных і важных участкаў работы. З 4 397 дзяржаўных клубных устаноў рэспублікі 4 117 — сельскія. Не цяжка ўявіць сабе якую ролю адыгрываюць яны ў культурным жыцці сяла, у развіцці і задавальненні духоўных запатрабаванняў сельскага насельніцтва.

316 сельскіх клубаў і дамоў культуры рэспублікі — клубы выдатнай работы. Да іх адносяцца Абідавіцкі дом культуры Быхаўскага раёна, Вярэйкаўскі сельскі дом культуры Ваўкавыскага раёна, Яромінскі сельскі дом культуры Гомельскага раёна, Камянецкі сельскі клуб Мінскага раёна, Малюшыцкі і Кайшоўскі сельскія дамы культуры Карэліцкага раёна і іншыя. Тут працуюць паўнакроўныя калектывы мастацкай самадзейнасці, аматарскія кінастудыі і фотагурткі, даведачна-інфармацыйныя цэнтры, музеі на грамадскіх асновах. Але ёсць і іншыя факты: нядаўна пабудаваныя тыпавыя будынкі з добрымі пакоямі для гуртковай работы бяздзейнічаюць з-за адсутнасці ініцыятыўнага работніка, бескантрольнасці з боку аддзелаў культуры. Нярэдка здараецца і так, што кіраўнікі гаспадарак, сельскіх Саветаў, раённых аддзелаў культуры, закладваючы новыя будынкі пад клубы і дамы культуры, не думаюць над тым, хто ўдыхне ў іх жыццё.

— Мы з поўнай падставай ганарымся масавасцю мастацкай самадзейнасці нашай рэспублікі, — працягваў далей дакладчык. — Паўмільённая



У перапынку паміж пасяджэннямі нарады работнікаў культуры. Галоўны дырыжор Дзяржаўнай харавой капэлы БССР Уладзімір Раговіч, балетмайстар Іван Хвораст, загадчык Смаргонскага аддзела культуры Яраслаў Буткевіч і дырэктар Смаргонскага раённага дома культуры Соф'я Лазар.

магло з ім здарыцца!» Даўно ўсе ведалі яго, ак адпетага мярзотніка — ілжывага, жорсткага, лянівага, здольнага на любую нізасць. Сама маці ў сваіх паказаннях нічога станоўчага пра свайго сына сказаць не магла, акрамя таго, што ён «нарадзіўся вагой 3 кілаграмы 500 грамаў і ў дзяцінстве нічым не хварэў». Вучыцца не хацеў — ледзь скончыў шэсць класаў. Не начаваў дома, краў і г. д. Не будзем шукаць вытокаў усяго гэтага. Адзначым толькі, што бацька Яўгена асуджаны судом за здзекі з жонкі.

У 1970 годзе Я. Катлінскі быў асуджаны на год за тое, што абрабаваў з хаўруснікамі ларок і школьны буфет. Было яму тады шаснаццаць. Роўна праз год выйшаў на волю. І вось пра гэту акалічнасць мне хочацца пагаварыць. Я чытаў характарыстыку Катлінскага, напісаную начальнікам выхаваўчай працоўнай калоніі, дзе ён знаходзіўся. Сказаць толькі, што характарыстыка адмоўная, значыць не сказаць нічога. Уся яна складаецца з пераліку злосных парушэнняў Катлінскім дысцыпліны, рэжыму калоніі. «Па характары грубы, жорсткі, схільны да падману, не мае сяброў». І як рэзюме: «На мерапрыемствы выхаваўчага характару не рэагаваў».

Што можна было чакаць ад такога чалавека на волі? Мы разгаварыліся пра гэта з Аляксеем Сямёнавічам Маўчанавым, членам Вярхоўнага Суда БССР, які разбіраў крымінальную справу ў парадку касацыі. Я спытаў, як можна было з такой характарыстыкай выпускаць Катлінскага з калоніі. Аляксей Сямёнавіч растлумачыў, што без суда ніхто не мог яго затрымаць ні на адзін дзень. Ён, вядома, меў рацыю, і пытанне маё было досыць наіўным. Закон — ёсць закон. Галавой гэта разумееш, а сэрцам... Але, нарэшце, законы пішуцца людзьмі. І ці не прыспеў час мець закон, які б прадугледжваў прэвентыўную меру да такіх злачынцаў, як Катлінскі.

СУД ІДЗЕ...



Такое дараваць нельга!..

Фота Ул. МЯЖЭВІЧА.

Ён прыехаў з калоніі ў канцы чэрвеня 1971 года, а ў пачатку жніўня ўжо ўкраў з адной кватэры радыёпрыёмнік і супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа. Пад варту Катлінскага чамусьці не ўзялі, хаця для рэцыдывістаў такая палёгка не прадугледжана. Першы суд над ім адбыўся 2 снежня мінулага года па абвінавачанні ў крадзяжы прыёмніка, хоць арыштавалі яго менавіта 22 кастрычніка за напад разам з Буглаком на Шышкаўца з мэтай рабунку. (Пра тое, што яны забілі Размазава, следству стала вядома намнога пазней). Далі Катлінскаму два гады, а тым часам сваёй чаргой ішло следства па злачынстве, што мела месца 22 кастрычніка.

У канцы лютага г.г. абласным судом пад старшынствам Валерыя Якаўлевіча Сямячкі была пастаўлена ва ўсёй гэтай справе апошняя кропка. Я. Катлінскі атрымаў 10 гадоў (яму не споўнілася васемнаццаці) зняволення ў калоніі строгага рэжыму, К. Буглак — 8 гадоў (было ўлічана, што раней ён не судзіўся і падпаў пад уплыў Катлінскага).

Такі фінал гэтай крымінальнай справы. Так, не тыповай, так, магчыма, выпадковай. Але ж і адзін кусток пырніку псуе поле. Тым больш, што пырнік жывучы...



# ДЫРЫЖЫРУЕ Арам ХАЧАТУРАН

Як старога, добрага сябра сустрэлі беларускія музыканты і слухачы лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўных прэмій, народнага артыста СССР Арама Ільіча Хачатурана. Многія памятаюць папярэднія прыезды кампазітара ў наш горад. Гэта былі цудоўныя сустрэчы, дзівосныя вечары музыкі. Арам Ільіч знаёміў мінчан са сваімі новымі творамі. Мастацтва таленавітага майстра паланіла ўсіх яркай мелодыкай, бляскам аркестравых фарбаў, жыццесцвярджальнасцю.

На гэты раз аўтарскім канцэртам Хачатурана адкрываўся цыкл сімфанічных прэм'ер твораў кампазітараў братніх рэспублік, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. У праграму вечара ўвайшлі тры канцэрты-рапсодыі для скрыпкі, фартэпіяна і віяланчэлі, якія натхнёна, з вялікай тэхнічнай свабодай выканалі лаўрэаты міжнародных конкурсаў скрыпач Павел Коган, піяніст Уладзімір Крайнеў і віяланчэлістка Карынэ Геаргіян. Яшчэ раз прадэманстраваў свае вялікія творчыя магчымасці і Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава.

У другім аддзяленні месца за дырыжорскім пультам заняў сам аўтар. Тэмпераментна і ярка прагучалі фрагменты з балета «Гаянэ».

...Заціх апошні акорд.

Пасля бясконца цяжкага дня, гранічна напружанага вечара, зрэшты, можна крышку расслабіцца, адпачыць. Вось толькі журналісты...

— Сённяшні вечар для мяне асабіста знамянальны тым, — сказаў Арам Ільіч нашаму карэспандэнту, — што ўпершыню былі выкананы адразу тры мае канцэрты-рапсодыі, напісаныя шмат гадоў таму назад. Мінск — з тых цудоўных гарадоў, у якіх кожны раз чакае што-небудзь прыемнае. Мне вельмі падабаецца ваш сімфанічны аркестр і ваш чулы, патрабавальны слухач. Для музыканта гэта, бадай, самае галоўнае, калі ёсць з кім музіцыраваць і ёсць перад кім выступаць. Я пакідаю вас, але вязу з сабой вашу шчырасць і цеплыню.

Г. БАРЫСАЎ.

# НОВАЕ Ў ВЯДОМЫМ, БЛІЗКАЕ Ў НЕВЯДОМЫМ

У ГЭТЫ ВЕЧАР гучалі творы, розныя па жанрах, розных па сваёй індывідуальнасці кампазітараў: Чацвёртая сімфонія Л. Абеліёвіча і кантата «Сказ пра Мядзведзіху» А. Багатырова, вакальна-сімфанічны трыпціх «Песні Сапфо» А. Янчанкі і танцы для аркестра з музыкі да тэлефільма «Вясновая казка» Я. Глебава. Усе гэтыя творы, за выключэннем апошняга, ужо знаёмыя слухачу.

Пры кожнай новай сустрэчы з творамі Л. Абеліёвіча яшчэ раз пераконваешся, што побач з намі жыве сапраўды цікавы мастак са сваім арыгінальным поглядам на жыццё, своеасаблівым почыркам, выразнай грамадзянскай пазіцыяй. Л. Абеліёвіч па-майстэрску валодае аркестравай палітрай, добра адчувае музычную форму, умее ствараць дакладныя вобразы. Яго музыка дынамічная, уражлівая, насычаная яркімі кантрастамі.

За 35 гадоў, што мінулі з дня напісання кантаты «Сказ пра Мядзведзіху», яна не страціла сваёй свежасці. Наадварот, слухаючы гэты твор сёння, мы разумеем, што якасці, уласцівыя больш познім творам А. Багатырова, — блізкасць да фальклору, яснасць мыслення, выдатнае адчуванне магчымасцей вакальнага ансамбля — пачыналіся яшчэ ў гады юнацтва кампазітара. Кантата «Сказ пра Мядзведзіху», бадай, лепшы беларускі твор, у якім гучаць вершы вялікага паэта.

«Песні Сапфо» А. Янчанкі—вакальна-сімфанічны твор зусім іншага характару. Тут і мова больш складаная, і другі падыход да раскрыцця вобразаў літаратурнай першакрыніцы. Кожнае новае знаёмства з «Песнямі Сапфо» дае магчымасць слухачам раскрыць для сябе новыя вартасці гэтага арыгінальнага твора.

Балетная музыка Я. Глебава заўсёды вызначаецца добрым адчуваннем прыроды танцавальнага мастацтва, рытмічнай вынаходлівасцю, цікавымі пошукамі аркестравых фарбаў. Танцы Я. Глебава з музыкі да тэлефільма «Вясновая казка» — новы пошук кампазітара ў галіне музыкі, спадарожніцы харэаграфіі.

Звычайна бывае цяжка пагадзіцца з новай музыкай да ўжо добра знаёмага твора, да якога не раз звярталіся іншыя кампазітары. Але тут у слухача не ўзнікае такога ўнутранага канфлікту. Музыку Я. Глебава ўспрымаеш як добрую даўнюю знаёмую. У ёй паўстае вядомы з дзяцінства і любімы намі свет берандзееў, немудрагелістых і шчырых, лірычны і вясёлы, поўны жартаў, гуллівасці, дабра. Так і бачыш яркую вясёлку, што раскінулася над казачнай краінай мудрага Берандзея, зялёныя лугі, якія пераходзяць у сінь неба, чырвань кветак, рознакаляровыя, шытыя серабром і золатам касцюмы жыхароў. У партытуры гэтага твора незвычайныя для сімфанічнага аркестра інструменты: рытм- і бас-гітара, балалайка, баян. Гэта дыктуецца імкненнем кампазітара зрабіць музыку больш разнастайнай, характарнай, падкрэслена народнай.

Праграму з твораў беларускіх кампазітараў чула выканалі Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларускай ССР (дырыжор Ю. Яфімаў), Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла (кіраўнік У. Раговіч) і салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Г. Лебедзева.

М. ПАНІЧ.

# ЧУЛАСЦЬ І МАЙСТЭРСТВА

ГЭТА стала ўжо добрай традыцыяй... У пачатку кожнага красавіка канцэртная зала філармоніі прадастаўляе сваю сцэну аб'яднанаму хору Беларускага тэлебачання і радыё, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага (мастацкі кіраўнік В. Роўда, хормайстар І. Кліонскі, канцэртмайстар А. Ліўшыц).

Канцэрт, які адбыўся гэтымі днямі, быў, бадай, самы цікавы за ўсю гісторыю калектыву як па праграме — складанай, разнастайнай, але дакладна і лагічна «рэжысёрскі» прадуманай і пабудаванай, так і па ўзроўню выканання. Менавіта ў гэтым канцэрце была прадэманстравана асаблівая чуласць дырыжора і хору ў інтэрпрэтацыі твораў розных стыляў, розных характараў і знойдзена асобая эмацыянальная атмасфера, своеасаблівасць харавых фарбаў.

Праграма першага аддзялення шматаблічная і ў той жа час адзіная. Побач з творамі беларускіх аўтараў была шырока прадстаўлена харавая культура нашай шматнацыянальнай дзяржавы. Пачаўшы канцэрт з урачыстага гімнічнага хору Ю. Семянякі на словы А. Бачылы «Ленінская праўда расцвітае» (саліст А. Падгайскі), хор выканаў некалькі апрацовак беларускіх народных песень. Сярод іх — тонкая вязь харавой апрацоўкі Г. Вагнера «Па Зарэччы зелле...» і дзве цудоўныя апрацоўкі майстра харавога пісьма А. Багатырова—«Каліна-маліна» і славутая «Зорка Венера» з іх знешняй прастатой, але глыбокім пранікненнем у паэтычную бяздоннасць народных мелодый. Добра, што ў кожным канцэрце калектыў знаёміць слухача з новымі імёнамі беларускіх кампазітараў (успомнім адкрыццё цікавых свежых ясенінскіх хораў А. Турышава). У рэцэнзуемым канцэрце прагучаў адзін з першых харавых опусаў маладога віцебскага кампазітара Я. Касалапава «Няскораныя» на словы П. Барэйкі, які быў інтэрпрэтаваны дырыжорам як драматычны харавы маналог, поўны гневу і мужнай сілы.

Музычная культура братніх рэспублік была прадстаўлена выкананнем шэрагу харавых жамчужын, якія сталі ўжо савецкай харавой класікай. Інтэрпрэтацыя кожнай з іх вызначалася гранічнай індывідуальнасцю — тэмбрава-эмацыянальная кантрастнасць двухчасткавага хору «Лес» эстонскага кампазітара Л. Людзіга, маштабнасць і несакрушальная сіла «Зламаных соснаў» Э. Дарзіня (Латвія), дзівосныя спалучэнні грацыёзнасці і азартнай імклівасці грузінскага танца («Далуры» ў апрацоўцы А. Мачаварыяні).

Праграма другога аддзялення была ў сваім родзе унікальная. Па сутнасці, перад слухачамі прадстала своеасаблівая анталогія харавога мастацтва самых розных часоў і народаў (ад XVI стагоддзя да нашых дзён). Амаль усе творы, якія прагучалі ў аддзяленні, выконваліся ў Мінску ўпершыню. Творчая задача, пастаўленая перад выканаўцамі, была несумненна надзвычай складаная, і яны дастойна справіліся з цяжкасцямі.

Так дырыжор і хор уладарна пераключалі ўвагу слухачоў ад трагічнай экспрэсіі «Элі-элі» венгерскага кампазітара Дэакбардаша да светлай, яснай пастаральнасці старадаўняй французскай песні ў апрацоўцы Ж. Кантэлуб дэ Маларэ, ад паэтычнай эпітафіі «Смерць Озэ» з музыкі Э. Грыга да «Пера Гюнта» (харавое пералажэнне А. Ягорава), да празрыстага, часамі як бы «сатканага з паветра» харавога гучання «Вечара» З. Кодаі.

Высокае майстэрства хору выявілася ў адчуванні шматмернасці нават у жанры харавой мініяцюры (найтанчэйшыя градацыі нюансаў, адценняў тэмбра, штрыхавое багацце і г. д.). І побач з гэтым выканаўцы натуральна і арганічна пераключаліся на шырокі штрых у маштабных палотнах (харавы канцэрт М. Беразоўскага «Сэрца чыстым хавай» і апрацоўка М. Скорыка старадаўняга распеву XVII стагоддзя «Золатакаваная труба»).

Поспеху канцэрта садзейнічалі салісты Л. Івашкоў, Т. Казлова, Т. Лапіцкая. Асабліва трэба адзначыць Л. Каспорскую, якая пакарыла слухачоў сваім абаяннем, непасрэднасцю ў выкананні народнай песні Астурыі ў апрацоўцы Дафаўцэ «Смутак дзяўчыны», і Ніну Ясеву, якая так натуральна і шчыра выказала тонкасць і нейкую безабаронную кволасць у мадрыгале «Амарыллі»— італьянскага кампазітара XVI стагоддзя Л. Качыні.

Г. ЗЕЛЯНКОВА.

Эдуард ВАЛАСЕВІЧ

## ДЫКТАТАР

**Байка**

Узнесены да зорак быў Дыктатар!
Яму курылі густа фіміям,
Яму панастаўлялі манументаў, статуй,
Упадабляў сябе магутным ён багам!
Прад ім дрыжалі многія народы,
Бялелі, калаціліся ад страху каралі,
Калі, як смерч, праносіліся орды,
Смерць сеючы, праклёны па зямлі...
П'яны ад алілуйшчыны, крыві і ўлады,
Дыктатар грозны ашалеў:
Усёй Зямлёй быў рады,
Ды што Зямлёй! Сусветам правіць захацеў!
Каб сонейка яму было каронай залатой,
Каб перад ім кружыліся і зоркі, і планеты,
А ў час банкетаў—
Сам Бог быў у яго слугой...
Падумаў толькі злыдзень гэтак
І бразнуўся на дол, нібы струхлелы дуб,
Маланкай скрышан быў уладалюб,
Ператварыўся ў тлен нікчэмны...

□

Закон прыроды мудры і нязменны:
Аціла, Чынгісхан —
Любых часоў любы тыран —
Як бы сябе ні ўзнімаў,
Якую б ні нацягваў на сябе ён тогу,
Якіх рэгалій ні чапляў —
Святым апосталам не стаў,
Тым больш не стаў ён бессмяротным богам.

# ПАКВАПІЎСЯ

З ДАЎНЕЙШЫХ БЕЛАРУСКІХ ЖАРТАЎ

Селяніну пашанцавала: зусім танна купіў бычка-гадавічка. Семяніў селянін босымі нагамі па цёплай пыльнай дарозе і раз за разам азіраўся на рагатага прыгажуна з белай зорачкай цераз лоб. Не бычок, а глячок, хоць стаўляй яго на стол і любуйся!

Але на кірмашы не адзін селянін згледзеў бычка з белай зорачкай цераз лоб. Між вазоў снаўдаўся бледны малады чалавек у бліскучых хромавых ботах. Ён, можа, яшчэ на месцы выхапіў бы бычка з-пад носа ў селяніна, калі б той, пакуль плаціць, не ўскінуў на жывёліну вяроўку. Насуплены хлапец не зводзіў са шчаслівага купца вачэй. Цікаваў.

На заходзе сонца селянін падыходзіў да лесу. У прыдарожнай канаве нечакана ўбачыў бліскучы хромавы бот з левай нагі. Хто-кольвечы можа і ўзрадаваўся б гэтаму, але не селянін. «На ліха мне няпарны бот?—разважаў ён.—У гарод на пудзіла? Але ж жонка там дзень пры дні стаіць». І наддаў кроку.

За наступнай павароткай убачыў бот з правай нагі. «Авохці мне!—пляснуў у далоні.—Прыбытак сам ідзе ў рукі». Прывязаў бычка да лазіны, балазе, нікога не было на дарозе, і кінуўся назад. Аблазіў канаву ледзь не да самага горада, але бота не знайшоў. Цямнела, і ён быў вымушаны спыніць пошукі.

Як жа ён быў здзіўлены, калі на старым месцы не ўбачыў бота з правай нагі. Быццам схрумстаў бычок—разам з халявай. А, дарэчы, дзе ж гэта ён, шыракалобенькі? Сляды капытоў і абцасаў вялі ў лес.

— Собіла ж мне,—плакаў селянін, успамінаючы бычка-гадавічка,—купіць затанна, а аддаць задарма!

Запісаў Генадзь ШУСТОЎСКІ.

## У НАША ДВАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ...

Мал. Л. ВЯЗНІКАВА.







Сеймур ДЖОЗЭФ

# ЗНІКНЕННЕ ЛОНДАНСКАГА МОСТА

ЛОРД БРЫТЛБІ пастукаў костачкамі пальцаў па лонданскім «Таймсе» і прабурчаў:

— Чорт ведае што! Яго трэба было ўзарваць!

У нямой цішыні «Клуба гвардзейцаў» да яго павярнуліся галовы прысутных.

— Што?—азваўся сэр Катберт-Сімс, адарваўшы вочы ад табліцы розыгрышу рэгбі.

— Мост, кажу, наш лонданскі мост! — адказаў лорд Брытлбі, скіраваўшы дрыготкі палец на акно, за якім нядаўна красаваўся мост праз Тэмзу. Потым кінуў газету сэру Катберт-Сімсу, але той адхіснуўся ад яе, утаропіўшы ўзрушаны позірк на свайго калегу.— Амерыканцы, — гаварыў далей лорд Брытлбі, — забралі яго сабе і па каменьчыку збіраюць у нейкай там сваёй чортавай пустыні. Стымулююць, нібыта, турызм. — Лорд пачаў нервова хадзіць па пакоі, раз-пораз кідаючы спалоханыя позіркі праз акно, каб упэўніцца, што гэта не кашмарны сон і што сапраўды моста на старым месцы няма. — Нейкі вар'ят-мільянер аддаў за яго сем мільёнаў доларамі і перавёз за акіян—камень за каменем—у пустыню Арызоны ці ў іншае богам забытае месца, каб сабраць яго там сярод пяску, заўважце—сярод пяску, а потым пракапаць пад ім нейкую нікчэмную рачулку. Скандальная гісторыя! Шкада, што не паслалі гэтага містэра Мак-Кулача да д'ябла.

Сэр Катберт-Сімс узняў бровы:

— Гм-м... На мой погляд, за мост пераплацілі. Але ж вы ведаеце гэтых янкі: для іх усё жарцікі, ніякай павагі да традыцый. Ніколі не ўгадаеце, якую штуку яны выкінуць у наступны момант. Гм-м...

Да іх падышоў лорд Фэрлей:

— Што вы такое гаворыце, Брытлбі? Што ўзарвалі? Не дай бог, парламент наш, га?

— Амерыканцы купілі наш мост, каб завабіць турыстаў у Арызонскую пустыню!

— Ну, і што з таго? Яго і трэба было ім аддаць. Малайцы — адразу адрозніваюць добрае ад дрэні! Дык у пустыню, кажаце?

Лорд Брытлбі аж пачырванеў ад злосці:

— Кажу ж вам! Прыкрая абраза!

— Некалі я ведаў аднаго амерыканца, — паведаміў лорд Катберт-Сімс,—дык той для адной вечарынкі купіў цэлы лінкор. Дзіўныя людзі гэтыя амерыканцы.

— Ва ўсім вінаваты грошы,—высветліў лорд Фэрлей. — Калі ў цябе прорва грошай, ад іх вар'яцееш.

— Лухта! — узарваўся лорд Брытлбі. — А ў нас што — грошай няма? Але ж мы з глузду не з'ехалі. Таму што ў нас ёсць пачуццё адказнасці —ну, не ва ўсіх, можа. Але і тых тыпаў з лорд-мэрыі нельга вінаваціць за продаж. Гэта проста чарговая праява нашага заняпаду, джэнтльмены, і трэба нешта рабіць! Садружнасць наша распаўзаецца. Мы, як жабракі, просімся ў Агульны рынак. І вось цяпер наш мост—старадаўні велічны лонданскі мост—трапіў у лапы агідных пачвар!

Вакол іх стоўпіліся амаль усе члены клуба.

— Што ж рабіць загадаеце?—запытаў нехта.— Пайсці на іх вайной?

— Ха!—усклікнуў лорд Брытлбі.—Ха! Вайной! Не, толькі не мы, брытанцы. У мінулым стагоддзі навяваліся. Хопіць. Быў час, калі мы давалі дыхту таму, хто хоць пальцам кране нас. А зараз? Зараз мы хаваем насы ў спартыўных табліцах!

Сэр Катберт-Сімс нешта прабурчаў і скруціў газету.

— Дальбог, праўда! — выгукнуў лорд Лікак, маленькі лысы чалавечак, у якога на скронях тырчала яшчэ некалькі сівых валаскоў. — Вось жа толькі сёння раніцай каля Вестмінстэрскага абацтва пахаджваў нейкі амерыканец — то падыдзе да будынка, то адыдзе ад яго і нешта такое піша ў свой блакноцік. Я ішоў міма, і ён спытаў, што там усярэдзіне. Адчуваеце, якая абраза? Але ж я сказаў яму. Тады ён... — лорду Лікаку не хапіла паветра, і яму дапамаглі сесці ў крэсла.

— Кажыце ж, кажыце! —падахвочвалі яго.

— Тады ён спытаўся, колькі, на мой погляд, каштуе абацтва!

Лорды і рыцары аж раты паразяўлялі, а нехта прамармытаў:

— Я заўсёды гаварыў, што тую вайну трэба было давесці да канца!

Лорд Лікак працягваў:

— Я зірнуў яму проста ў твар і сказаў: «Яно каштуе апошнюю кроплю крыві апошняга англічаніна!»—Грымнулі апладысменты. — І што вы думаеце, ён...

Лорды і сэры-рыцары пераглянуліся, і мёртвая цішыня ўсталявалася ў «Клубе гвардзейцаў».

Толькі лорд Брытлбі прашаптаў:

— Яны на ўсё здатныя, калі хочаце ведаць, на ўсё...

Пераклаў з англійскай Сямён ДОРСКІ.

# МІМАХОДЗЬ

Пісьменнік быў залішне самакрытычны—на свой юбілей запрасіў адных крытыкаў.

І. КАРЭНДА.

●

Аб'ява: «Вучням пятага класа патрэбна адзінокая бездапаможная бабулька для аказання ёй запланаванай дапамогі».

Шыльдачка: «Пабойся дога!»

Растратасфера.

Д. КУМСКІ.

●

Трагедыя плагіятара ў тым, што ў яго ніхто не крадзе.

І. БАРКОЎ.

●

Цвік праграмы быў тупы.

Усё рабіў за грошы—«за так» толькі ездзіў у тралейбусе.

Калгас кінуў, цягаць з калгаса кінуць не мог...

Пісаў раманы. На аповесці не хапала часу.

С. ШЫКУН.

●

Кафэ «Танталавы пакуты».

Колькі патрэбна мець розуму, каб за яго можна было ўзяцца?

Апошні крык моды: «Я яшчэ вярнуся!»

М. ШЛЯФЕР.

●

Дубовы пень хваліўся, што ён найлепшы з пнёў.

М. АЎСЕЕНКА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 01682

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62 аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.